Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 390.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 13 сакавіка 1998 г. № 25 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Кангрэс ЗША пра сітуацыю ў Беларусі

**Беларуская сітуацыя абмяркоўвалася на мінулым тыдні ў Кангрэсе ЗША.**

Па ініцыятыве шасці кангрэсменаў, вышэйшы заканадаўчы орган Злучаных Штатаў разгледзеў і прыняў спецыяльную рэзалюцыю аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Гэты дакумент цікавы не толькі фактамі, на якія звяртаюць увагу амерыканскія заканадаўцы, але і іх высновамі. У прыватнасці, у рэзалюцыі адзначаецца, што рэферэндум 1996 г. не можа лічыцца легітымным, а таму Вярхоўны Савет 13-га склікання застаецца адзіным законным парламентам Беларусі. Амерыканскі Кангрэс заклікае прэзідэнта Лукашэнку аднавіць паўнамоцтвы ВС, кіравацца Канстытуцыяй 1994 г. і выконваць міжнародныя абавязацельствы па захаванні правоў чалавека, якія Беларусь добраахвотна ўзяла на сябе.

Калі ж афіцыйны Мінск не прыслухаецца, Кангрэс рэкамендуе прэзідэнту Клінтану прымяніць у дачыненні да Беларусі эканамічныя санкцыі.

*(Поўны тэкст рэзалюцыі змешчаны на стар. 4—5.)*

### Грушавы вярнуўся ў Мінск

**Старшыня Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы днямі вярнуўся ў Беларусь.**

Цэлы год ён знаходзіўся ў Заходняй Еўропе, асцерагаючыся пераследу беларускіх уладаў. Як вядома, па ініцыятыве Савета бяспекі вялася праверка дзейнасці фонду, але незалежная міжнародная камісія палічыла ўсе прэтэнзіі беларускіх кантралёраў абсалютна беспадстаўнымі. Аднак і пасля гэтага не было поўнай яснасці ў лёсе Генадзя Грушавога. І ўсё ж пасля візіту ў Брусель і сустрэчы з дэпутатамі Еўрапарламента Г.Грушавы вырашыў вярнуцца ў Мінск. Пакуль ён адмаўляецца ад «каментарыяў і эмоцый», але сказаў, што будзе па-ранейшаму кіраваць фондам «Дзецям Чарнобыля» і не пакіне Беларусь.

А.Д.

### Гомель зачынілі на каранцін

*Дзеці могуць застацца без вясновых канікулаў*

Эпідэмія грыпу ў Гомелі набыла абвальны характар. Кожны дзень у горадзе рэгіструецца да 5 тысячаў новых хворых. Маштабы эпідэміі прымушаюць гарадскія ўлады прымаць экстранныя меры.

З 11 сакавіка на каранцін зачыніліся ўсе агульнаадукацыйныя школы і дзіцячыя садкі горада. Эпідэміёлагі мяркуюць, што каранцін давядзецца трымаць не менш, чым два тыдні. У гэтым выпадку, паведамілі карэспандэнту НАВІНАЎ у гарадскім аддзеле адукацыі, каранцін будзе залічаны школьнікам як канікулы. А ў час «планавых» вясновых канікулаў (у канцы сакавіка) дзецям давядзецца вучыцца.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

### Блакада мяжы

**Чарговы інцыдэнт здарыўся на беларуска-польскай мяжы.**

У ноч з аўторка на сераду кіроўцы вялікагрузных аўтамабіляў заблакавалі сваімі «фурамі» памежны пераезд Баброўнікі—Бераставіца (Гродзенская вобл.). Блакада адбывалася на польскім баку, але асноўныя прэтэнзіі былі да беларусаў. Кіроўцы лічаць, што беларускія мытнікі працуюць вельмі марудна, з-за чаго даводзіцца па трое і больш сутак стаяць у чарзе на ўезздзе ў Беларусь. І сапраўды, на момант блакіроўкі ў 20-кіламетровай чарзе скапілася больш за 800 грузавікоў. Кіроўцы трымалі блакаду 12 гадзінаў і вызвалілі дарогу толькі пасля таго, як беластоцкі ваявода і беларускі віцэ-консул, прыехаўшы на мяжу, узялі спіс патрабаванняў і паабяцалі, што зоймуцца праблемай. «Дальнабойшчыкі» прыгразілі: калі чарга не будзе рухацца хутчэй, то зноў заблакуюць мяжу.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ



АКЦЫІ

## Вясна. Спецназ таксама рыхтуецца

**Шэсце і мітынг, прымеркаваныя да 80-годдзя Дня незалежнасці БНР, адбудуцца ў нядзелю, 22 сакавіка ў Мінску.**

Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзенне святочнай дэманстрацыі. Маніфестацыя пачнецца а 12 гадзіне з плошчы Я.Коласа. Дэманстрантам дазволена рухацца па тратуарах і адной паласе праезнай часткі праспекта Ф.Скарыны да цырка і далей па вуліцы Я.Купалы да Опернага тэатра, дзе пройдзе святочны мітынг.

А ў гэтую нядзелю, як мы ўжо паведамлялі, сацыял-дэмакраты праводзяць шэсце і мітынг у гонар Дня Канстытуцыі. Дэманстрацыя пачнецца а 12-й гадзіне з плошчы Я.Коласа. Акцыя пройдзе пад лозунгам «Дэмбель-99».

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ



## Яшчэ адзін паказальны працэс

*Працэс па справе актывіста Маладога Фронту Вадзіма Кабанчука пачнецца 23 сакавіка ў Мінскім гарадскім судзе*

23-гадоваму Вадзіму Кабанчуку інкрымінуюць два артыкулы Крымінальнага кодэкса. Ён абвінавачваецца ў аказанні супраціўлення міліцыі і ўдзеле ў несанкцыянаванай дэманстрацыі пратэсту. Ужо 5 месяцаў Вадзім утрымліваецца ў следчым ізалятары па вуліцы Валадарскага. Дакладна вядома, што пакуль следства шукала доказы віны, у яго абвастрыліся хваробы нырак і сэрца.

Суд над Кабанчуком пачнецца ў 10 гадзінаў раніцы. Старшынстваваць на працэсе будзе гарадскі суддзя Анатоль Сушко. *«За 16 гадоў маёй судовай практыкі гэта першая падобная справа, хаця касацыйныя скаргі па аналагічных выпадках мне разглядаць даводзілася»*, — паведаміў суддзя карэспандэнту НАВІНАЎ. Справу Кабанчука ён не лічыць палітычнай, але не выключае, што гэта будзе складаны працэс — *«як любы працэс, на якім вырашаецца лёс чалавека»*. Калі Кабанчук будзе прызнаны судом вінаватым, яму могуць даць да пяці гадоў турмы.

Нагадаем, што 6 удзельнікаў Мінскай вясны-97 ужо былі пакараныя за сваю палітычную актыўнасць па крымінальных артыкулах. Два гады папраўчых работ атрымаў Аляксандр Ціцук з Лідскага раёна. Такі прыгавор вынес суддзя М.Трубнікаў з Партызанскага суда Мінска. На працэсе пад старшынствам гарадскога суддзі М.Самасейкі былі асуджаныя яшчэ 5 дэманстрантаў. Рыгор Кійко і Уладзімір Лыско — да 2-х гадоў «хіміі», Аляксандр Бондараў, Аляксей Каваль і Анатоль Сарокін атрымалі па 2 гады папраўчых работ.

Што чакае Вадзіма Кабанчука?

Алесь ПАЎЛОВІЧ

### Дэзерцір вярнуўся

**Магілёўская ваенная пракуратура ўжо пяты год даследуе крымінальную справу гэтага 23-гадовага хлопца з Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці.**

Яго абвінавачваюць у дэзерцірстве: у кастрычніку 1993 года ён збег з вайсковай часткі ў Асіповічах. З таго часу пра яго нічога не ведалі ні дома, ні ў войску. Але днямі хлопец сам з'явіўся ў сваю частку. Шматгадовую адсутнасць ён патлумачыў тым, што ваяваў, абараняў Абхазію ад грузінскіх акупантаў у складзе казацкіх фармаванняў. Там ён даслужыўся да звання пад'есаула.

Пасля правядзення псіхіятрычнай экспертызы салдат стане перад ваенным судом. Яму пагражае да 7 гадоў зняволення.

Іван ЗАСАДА

### Беларус глытае лыжкі ў латвійскай турме

**У латвійскім горадзе Екабпілс амаль 5 месяцаў сядзіць за кратамі беларус Генадзь К. За гэты час ён праглынуў 3 лыжкі.**

28-гадовы хлопец нікому не тлумачыць сэнс сваіх дзеянняў. Начальнік екабпілскай паліцыі В.Страпцанс дапускае, што «затрыманы такім чынам спрабуе дабіцца, каб яго хутчэй выпусцілі на волю».

Генадзь К., які знаходзіцца ў Латвіі без дакументаў, быў затрыманы яшчэ 21 кастрычніка 1997 года ў Екабпілскім праваслаўным манастыры і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. 5 студзеня 1998 года затрыманы нанёс сабе рэзаную рану на жываце, але на гэтым клопаты медыкаў не скончыліся.

Першую лыжку Генадзь праглынуў 27 студзеня, пасля чаго быў дастаўлены ў цэнтральную раённую бальніцу, дзе стараннямі медыкаў гэты прадмет дасталі з ягонага арганізма. 6 і 7 сакавіка хлопец яшчэ двойчы глытаў лыжкі, і зноў медыкам давялося даставаць іх з Генадзевага жывата. Сам ён гаворыць, што «лыжку праглынуць лягчэй, чым таблетку». Латвійская паліцыя паведаміла пра Генадзя консулу Беларусі ў Даўгаўпілсе і чакае афіцыйнага адказу беларускіх дыпламатычных службаў.

*BNS - БелаПАН*

### Праваслаўнае набажэнства па-беларуску

**У Мінску ствараецца першы праваслаўны прыход, дзе ў набажэнствах будзе выкарыстоўвацца пераважна беларуская мова.**

Па словах айца Георгія Латушкі, настаяцеля Петрапаўлаўскай царквы, што на Нямізе, гэтую ідэю падтрымалі святары і многія вернікі, сваё блаславенне даў і мітрапаліт Філарэт. Магчыма, новы прыход атрымае назву «ў гонар усіх беларускіх святых», а ўзначаліць яго а.Сергій Гардун. Прыхаджане спадзяюцца атрымаць ад гарадскіх уладаў пляц у цэнтры Мінска для будаўніцтва свайго храма, які будзе мець характэрнае аблічча ў адпаведнасці з традыцыямі беларускай храмавай архітэктуры. Пры парафіі будуць працаваць суполкі, якія займаюцца перакладам богаслужбовых кніг на беларускую мову. Да друку ўжо падрыхтаваны пераклад Евангелля ад Марка, «Малітоўнік» і кароткі «Трэбнік».

Алесь ДАШЧЫНСКІ

### Арыштавалі епіскапа

**У мінулую пятніцу на вуліцы Я.Коласа ў Мінску двое ў цывільным арыштавалі 43-гадовага Пятра Гушчу, епіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай царквы.**

Святар змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Яму інкрымінуюцца «распусныя дзеянні ў адносінах да непаўналетніх». Крымінальная справа ўзбуджаная на падставе заяваў бацькоў дзвюх мінскіх школьніц. У пракуратуры Савецкага раёна Мінска, якая вядзе следства, сказалі, што абвінавачаны адмовіўся ад паслугаў адваката. Зрэшты, у яго ўжо ёсць досвед зносін з праваахоўнымі органамі: у 70-я гады Пятра Гушчу судзілі за крадзеж маёмасці.

Святар Пётр Гушча вучыўся ў Адэскай духоўнай семінарыі, а сан епіскапа атрымаў 27 ліпеня мінулага года ад амерыканскага архіепіскапа Юрыя Рыжага. Праваслаўныя аўтакефальныя прыходы, дагэтуль не зарэгістраваныя беларускімі ўладамі, знаходзяцца ў Мінску, Слоніме і Сёмкавым Гарадку. Дзейнасць епіскапа Пятра Гушчы і ягоных святароў выклікала рэзкую незадаволенасць у кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы на Беларусі.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

# Віцебскі чэмпіён

**Актывіст віцебскай рады БНФ 30-гадовы Юрась Мароз стаў своеасаблівым рэкардсменам па колькасці штрафаў і адсідак за ўдзел у апазіцыйных акцыях.**

У сераду суддзя Чыгуначнага райсуда Віцебска Святлана Туфан у чарговы раз аштрафавала Мароза на 37,5 мільёна рублёў за ўдзел у пікеце ў падтрымку зняволенага сябра. У лютым гэтая суддзя ўжо карала фронтаўца такім жа 37,5-мільённым штрафам і 10-сутачным арыштам.

Апошні раз на свабоду Юрась выйшаў у пачатку сакавіка, пасля 15 дзён зняволення ў мінскім прыёмніку-размеркавальніку, куды ён быў змешчаны пасля пікета салідарнасці з палітвязнямі Лабковічам і Шыдлоўскім.

Такім чынам, за плячыма Юрася толькі за мінулы і пачатак гэтага года 38 сутак арышту і штрафы на агульную суму больш за 100 мільёнаў рублёў. Ю.Мароз інвалід III групы і атрымлівае 630 тысячаў рублёў пенсіі, іншых крыніц існавання ў яго няма. Па рашэнні суда ў Мароза ўжо сталі вылічваць штомесячна 20 працэнтаў з пенсіі ў даход дзяржавы. Каб спагнаць усю суму — трэба 70 гадоў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# На сходку «ўсіх славян»

**Беларуская дэлегацыя прыхільнікаў славянскай інтэграцыі збіраецца ўзяць удзел у сёмым Усеславянскім з'ездзе, які пройдзе 2—5 чэрвеня ў Празе.**

Як нам паведаміў дэпутат прэзідэнцкай палаты камуніст Сяргей Касцян, член аргкамітэта гэтага форуму, галоўнай мэтай з'езда стане *«выпрацоўка стратэгіі абароны славянскай цывілізацыі ад экспансіі сатанінскай заходняй культуры на ўсход Еўропы»*.

Касцян упэўнены, што пагроза славянству сапраўды існуе. Ён сцвярджае, што на свае вочы бачыў антыславянскія надпісы і знакі на пражскіх вуліцах, і лічыць, што гэта справа рук *«25 тысячаў амерыканцаў, якія жывуць у Празе без прапіскі»*. Дзеля абароны славянаў ад шкоднага ўздзеяння заходняй мас-культуры з'езд абмяркуе стварэнне адзінай славянскай інфармацыйнай прасторы. Прычым, гаворыць Касцян, у гэтай справе славянам варта вывучаць досвед сваіх заходніх ворагаў, каб не дапусціць памылак у будучыні.

Дарэчы, першы Усеславянскі з'езд адбыўся роўна 150 гадоў таму і таксама ў Празе. Старшынёй аргкамітэта з'езда абраны прафесар Бжыслаў Хвала, праўнук Карэла Хвалы, які старшынстваваў на першым з'ездзе. Імёны беларускіх абаронцаў славянства, якія павінны паехаць у Прагу, дэпутат Касцян назваць адмовіўся. Аднак ён паведаміў, што сярод беларускіх дэлегатаў будуць прадстаўнікі розных галінаў улады, а таксама дзеячы славянскай культуры. Касцян не выключае, што дэлегацыю ўзначаліць сам Лукашэнка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Народная Грамада супраць тэрору КДБ

**Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч накіраваў сярдзіты ліст старшыні КДБ Уладзіміру Мацкевічу.**

«На працягу апошняга года, — гаворыцца ў лісце, — кіраўніцтва Народнай Грамады ўсё часцей атрымлівае інфармацыю аб грубым умяшанні супрацоўнікаў КДБ у дзейнасць партыі». М.Статкевіч піша, што з'явіліся выпадкі ўціску на актывістаў партыі і іх запалохвання з боку работнікаў КДБ.

У дачыненні да маладых членаў БСДП і іншых дэмакратычных партыяў, па словах М.Статкевіча, супрацоўнікі КДБ паводзяць сябе асабліва абуральна. Яны прымушаюць маладых людзей «даць распіску аб супрацоўніцтве з органамі», і такія дзеянні кіраўніцтва Народнай Грамады кваліфікуе як «запалохванне, шантаж і нават псіхалагічны тэрор».

*БелаПАН*

# Шкарпэтак і шпалераў на ўсіх не хопіць

**Сёлета наш гандаль будзе перажываць дэфіцыт тавараў.**

Такую высноўу можна зрабіць з матэрыялаў нядаўняга пасяджэння Савета міністраў. Па падліках міністэрства гандлю, закупленыя на 1998 год тавары забяспечаць толькі 70% патрэбаў у швейных вырабах і скураным абутку, 80% трыкатажу, панчохаў і шкарпэтак. Беларусы атрымаюць толькі 56% неабходнай колькасці шпалераў, 60% — пральных парашкоў і — што вельмі непрыемна для курыльшчыкаў — 63% неабходных тытунёвых вырабаў.

**М.З.**

# Візіты нафтавых магнатаў

**Дэлегацыя расійскай нафтавай кампаніі «ЛУКойл» прыбыла пазаўчора ў Мінск, каб зноў абмеркаваць праблему, што цягнецца ўжо не адзін год, — як правесці мадэрнізацыю Наваполацкага нафтаперапрацоўчага аб'яднання.**

На наступным тыдні чакаецца візіт кіраўніцтва кампаніі «Славнефть», якая плануе мадэрнізаваць Мазырскі НПЗ. Мазырскі і Наваполацкі заводы перапрацоўваюць у год каля 12—13 млн.тон пры магутнасцях у 40 млн.тон. Аднак тэхналогія перапрацоўкі вельмі састарэлая, таму праблема мадэрнізацыі заводаў вельмі актуальная. Рэканструкцыя павінна значна павялічыць глыбіню перапрацоўкі на «Нафтане» і Мазырскім НПЗ, што дазволіла б забяспечыць патрэбы Беларусі ў самых розных нафтапрадуктах.

Аднак эксперты адзначаюць, што папярэднія дамоўленасці могуць застацца толькі на паперы. Пазіцыі «ЛУКойла» на нашым рынку пасля неаднаразовых перамоваў беларускага ўрада з іншымі расійскімі кампаніямі аслабленыя, і магчыма, што рэканструкцыяй НПЗ будуць займацца іншыя структуры. А «Славнефть» чакае аўкцыён: напрыканцы месяца плануецца прадаць амаль 20% акцыяў кампаніі. Пасля гэтага палітыка фірмы можа змяніцца.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Шлюб са «Шкодай» завяршыўся шкадаваннем

**На праекце па зборцы аўтамабіляў «Шкода» ў Беларусі можна паставіць крыж.**

Кіраўніцтва чэшскага канцэрна заявіла, што вымушана адмовіцца ад сваіх планаў, і пачынае вывозіць абсталяванне, якое ўжо было размешчанае на плошчах прадпрыемства «Аграмаш», што ў Дзяржынску Мінскай вобласці.

Праект пачаў рэалізоўвацца ў 1996 годзе. Чэхі спадзяваліся на льготнае падаткаабкладанне, а ўзамен абяцалі інвестыцыі, працоўныя месцы, падатковыя адлічэнні і нядрэнны аўтамабіль для беларускага спажыўца. Планавалася ўжо ў 1999 годзе наладзіць зборку аўтамабіляў «Шкода-Феліцыя» з перспектывай павялічыць аб'ёмы кааперацыі амаль у дзесяць разоў, калі ўсё пойдзе добра. Не пайшло. Прэзідэнт Беларусі не падпісаў указ аб падатковых прэферэнцыях для «Шкоды» — аналагічных такому ж указу ў дачыненні да СП «Форд Юніян».

Падстава, па якой «Шкодзе» не дазволілі тое, што дазволілі «Форду», была абрана дзіўная: маўляў, няма гарантыі вяртання ў бюджэт грошай, якія «Шкода» зэканоміць на льготах. І хоць спецыялісты нашага міністэрства эканомікі сцвярджалі адваротнае, але да іх не прыслухаліся. Не выключана, што на лёс супрацоўніцтва са «Шкодай» паўплываў факт удзелу ў праекце беларускага бізнесмена Аляксандра Пупейкі, кіраўніка некалі вядучай беларускай фірмы «Пушэ». Ва ўсякім разе, сп.Пупейка першы пачаў прадаваць «Шкоды» ў Беларусі, ён жа быў ініцыятарам стварэння ў Дзяржынску сумеснага прадпрыемства. Зараз беларускія ўлады абвясцілі Пупейку злодзеем, патрабуюць ад Польшчы ягонай выдачы. А «Шкоду», па сутнасці, выселілі з беларускага рынку.

Аб правале праекта шкадуюць не толькі «шкодаўцы», але і беларускія партнёры. Жыхары Дзяржынска таксама расчараваныя. Планавалася, што па першым часе дзесяткі чалавек атрымаюць працу ў цэху па зборцы аўтамабіляў, а потым колькасць персаналу магла ўзрасці ў некалькі разоў. Шчаслўчыкі разлічвалі на проста фантастычныя заробкі па раённых маштабах — ад 200 да 300 долараў. На жаль, цяпер сотням дзяржынцаў прыйдзецца паставіць на сваіх ружовых марах крыж. Замест добрай працы ў СП ім гарантаваны толькі парадкавы нумар у мясцовым цэнтры занятасці, дзе беспрацоўных налічваецца больш за 600 чалавек.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Новая асамблея дэмакратычных сілаў

**У Беларусі ствараецца прадстаўніцтва новай міжнароднай арганізацыі — Хельсінкскай Асамблеі грамадзянаў (ХАГ).**

Пра гэта на прэс-канферэнцыі 11 сакавіка паведамілі кіраўнік ХАГ Мэры Калдаф і іншыя прадстаўнікі гэтай арганізацыі. Асамблея заснаваная ў 1990 годзе ў Празе, у яе стварэнні ўдзельнічаў цяперашні прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел. Прадстаўніцтвы гэтай арганізацыі існуюць больш чым у 30 краінах свету. Мэтамі стварэння беларускага прадстаўніцтва з'яўляюцца аб'яднанне грамадзян, якія падзяляюць прынцыпы дэмакратыі і правоў чалавека, а таксама імкненне прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да сітуацыі ў Беларусі.

Па словах спн. Калдаф, дзейнасць асамблеі адбываецца па некалькіх асноўных накірунках: праца з моладдзю, праблемы бежанцаў у Еўропе, праблемы нацыянальных меншасцяў, правы чалавека. Прадстаўнікі ХАГ працавалі ва ўсіх «гарачых кропках» апошніх гадоў — у Югаславіі, Закаўказзі. Асноўная задача асамблеі ў Беларусі — наладзіць абмен інфармацыяй рэспублікі з сусветнай супольнасцю, а таксама ўстанавіць кантакты з маладзёжнымі арганізацыямі. Вацлаў Траян, адзін з удзельнікаў чэхаславацкай «Хартыі-77», выступаючы на прэс-канферэнцыі, падтрымаў аналагічную беларускую ініцыятыву — «Хартыя-97».

*БелаПАН*

# Каўбасная праблема

На рэспубліканскай сельгаснарадзе ў Гродне Лукашэнка ўпершыню публічна прызнаўся: мэта ягонага прыходу да ўлады — забеспячэнне эканамічных паказчыкаў па ўзроўні савецкіх часоў.

Па савецкай звычцы афіцыйная прэса назвала «вясковыя» ўказы прэзідэнта і ягоную прамову «лёсавызначальнымі». Калі гэта так, то мы перасталі таптацца на месцы і цвёрдым крокам рушылі ў 1990 год, калі ўсе тыя паказчыкі былі найвышэйшымі.



*Трактарыст Іван Маліноўскі рамантуе свой трактар у калгасе «Беларусь» Навагрудскага раёна. А дзеля чаго?*

## Лезу я наперад – асадзі назад!

Такое ўражанне, што і сам Лукашэнка, і ўдзельнікі нарады, і шмат хто з простага люду ўжо нічога не памятаюць, як на сацыялістычных палетках працавала амаль усё дарослае насельніцтва краіны. Салдаты секлі штык-нажамі капусту, інжынеры нажніцамі стрыглі траву на сена, настаўнікі рэзалі кусты і галінкі на корм (ад якога рагулі пасля дохлі), піянеры ўлетку падбіралі за камбайнамі каласы, а ўвосень усе навучэнцы, ад малодшых школьнікаў да студэнтаў і аспірантаў, стараліся выхапіць з-пад замаразкаў бульбу і моркву. Пры гэтым на прылаўках крамаў ляжалі «супавыя наборы» з костак, як быццам не да канца абгрызеных сабакамі. Праўда, цяперашні гандаль прапануе зусім абгрызеныя маслы пад назвай «косці першай катэгорыі». Цікава, а як выглядае «другая катэгорыя» костак?

Але халера з імі, з тымі касцямі: кажуць, што мяса шкоднае. Аднак яшчэ нікому ніколі не ўдавалася вярнуцца ў мінулае, каб зноў, але ўжо на свой капыл, стартаваць у будучыню. Гэтаму вучыць і матэрыялістычная дыялектыка, якую беларускі кіраўнік павінен быў вывучаць у тых навучальных установах, якія ён скончыў. Але ж не — сцвярджае, што ў Беларусі будучыня залежыць ад мінулага. Пры гэтым Лукашэнка спасылаецца і на *«опыт ведения сельского хозяйства в нашей бывшей большой стране»* і на *«аграрный опыт зарубежных государств»*. Гэты досвед быццам бы кажа: будучыня належыць *«крупному коллективному хозяйству с современным уровнем организации труда и высокой эффективностью производства»*.

Добрыя словы. Але такога, калі не лічыць штучных «узорцовых гаспадарак», у нас ніколі не было. Дый сапраўды калектыўных гаспадарак таксама не было. Памятаю, як старшыня аднаго з гомельскіх калгасаў, куды я прывёз студэнтаў «на бульбу», скардзіўся: штогод яму даводзіцца купляць сотні віл, грабляў і вёдзер замест скрадзеных. Вось табе і калектыўныя гаспадары. А сёння? Няма што і казаць.

## Ні Галандыя, ні Палестына

У сапраўднасці замежны досвед, прыдатны для Лукашэнкі, вельмі абмежаваны. У якасці ўзору прыводзяцца прыклады Галандыі, Ізраіля (хоць назва гэтай краіны з вуснаў кіраўніка гучыць вельмі двухсэнсоўна) і Кітая, дзе няма прыватнай уласнасці на зямлю, а вынікі нібыта выдатныя. Але ж на самой справе гэта не ўся праўда — а значыць, хлусня. У Галандыі, амаль уся тэрыторыя якой ляжыць ніжэй узроўню мора, сельская гаспадарка вядзецца на так званых польдэрах — участках, адваяваных у мора. Эксплуатацыя земляў патрабуе такіх выдаткаў, з якімі можа справіцца толькі дзяржава. Таму польдэры належаць дзяржаве, але ж у якасці формы ўласнасці выступае права арэнды, якое можа не толькі наследавацца, але і прадавацца.

Іншая рэч — Амерыка. Там зямлі было навалам, клімат выдатны, і для асваення патрэбныя былі не столькі сродкі, колькі людзі. Таму гэтая краіна і стала класічнай у плане эканамічнай свабоды.

У Ізраіля, дзяржавы, якая стваралася пад ціскам этнарэлігійнай ідэі і ў барацьбе за тое, каб адваяваць у арабаў біблейскую тэрыторыю, кааператывы-кібуцы выглядалі адлаведным эканамічным афармленнем карпаратыўнай ідэалогіі. Акрамя таго, землеробства тут ажыццяўляецца ў пустыні, што патрабуе вялікіх дзяржаўных выдаткаў. І толькі вельмі смелы чалавек можа сказаць, што нашыя калгасы і іхнія кібуцы — гэта адно і тое...

## Дзе мы, а дзе Кітай?

Эканамічным цудам Кітая афіцыйная прапаганда, падобна, затлуміла ўжо мазгі ўсім — нават прэзідэнту. Але хочацца запытацца: што да чаго і дзе ж той Кітай? Але рэч не ў тым, які ў Кітаі клімат. Частковая рэформа там пачалася, калі народ ужо

## *Хартия-97*

**ЦЕЛИКОМ И ПОЛНОСТЬЮ ПОДДЕРЖИВАЮ** принципы демократии и свободы, изложенные в Хартии-97. Не хочу, чтобы народ Беларуси стоял на коленях и принимал подачки от псевдовласти в лице президента. Хочу чтобы мы вели нормальный европейский образ жизни. Надоело лукашенковское «кормление» обещаниями, жизнь с каждым годом его правления все хуже и хуже. Хочется нормальной свободной и достойной жизни. Не хочу возвращения назад в «совдепию», там я уже хлебнул «счастья». Попытки Лукашенко реанимировать советскую систему не находят поддержки в среде рабочих. И не найдут. Всего несколько лет мы жили в независимой Беларуси (1992-95), но этого хватило, чтобы нам понять одно: назад пути нет! Лучше плохая демократия, чем хорошая диктатура и «порядок». Надоело кланяться и поддакивать этой лукашенковской «вертикали», придет и на нашу улицу праздник. Жыве Беларусь!

**Олег ДУДИНСКИЙ,**
*рабочий Мозырьской экспедиции глубокого бурения*

**МЫ, СТУДЭНТЫ** Гомельскага політэхнічнага інстытута імя П.Сухога, падзяляем мэты і асноўныя прынцыпы Хартыі-97. Дасылаем свае подпісы ў падтрымку незалежнасці, дэмакратыі, свабоды слова і друку.

**Г.ЕЎЦІШЭНКАЎ, А.АДАМЕНКА, Д.ДЖАСАЎ, А.СЫЧ, Д.ЯВАРСКІ, І.БРАЦІКАЎ, А.ЯЎМЯНЕНКА, Н.БІБІК і іншыя (усяго 27 подпісаў).**

ДАГЕРРОТИП

# Идеологические радости г-на Мясниковича

**Семен БУКЧИН**

Иной раз думалось: ну, кто же у нас главный идеолог в государстве? Нет, конечно, самый-то Главный — он, безусловно, известен. Это наш Благодетель. Отец родной. Надежда и опора. Без него ни вздохнуть, ни молвить. Он у нас, как и положено, по всем вопросам дока. Но ведь должен быть и специально ответственный человек. Вроде секретаря ЦК по идеологии, как оно было в совсем недавние времена. Слава Богу, объявился наконец такой человек. Г-н Мясникович выступил с фундаментальной публикацией под вдохновляющим заголовком *«Белорусская государственность на магистральном пути становления»*.

Заголовок, впрочем, с точки зрения элементарной стилистики безграмотен, поскольку «магистральный путь становления» — чушь несусветная. Но в смысле помпы, барабанного боя, надувания щек и бюрократической трескотни — здесь все нормально. И содержание идеологического труда г-на Мясниковича соответствующее, поскольку заимствовано из самых замшелых запасников обкомов и райкомов КПСС. Тут и всем нам хорошо известная необходимость *«сосредоточить самое пристальное внимание на максимальном повышении авторитета человека труда»*, и *«опыт награждения трудовых коллективов переходящими знаменами, помещение портретов передовиков производства на доски почета»*. Ну и, понятное дело, *«было бы неплохо выводить на страницы республиканских газет и журналов, в теле- и радиопередачах наиболее отличившихся в работе...»*

Вообще-то слово «выводить» из другого ряда столь милой сердцу г-на Мясниковича обкомовской пропаганды. «Выводить» у нас, как правило, было принято «на чистую воду» и сами знаете кого — всяких антиобщественных «элементов», не говоря уже о «врагах народа». Чувствуется, что г-н Мясникович слегка подзабыл азы идеологической работы, путается в терминах.

Но не будем придираться к мелочам. В главном-то, в приверженности ко всей этой идеологической чепухе и пустозвонству, г-н Мясникович тверд, как скала. И я не стал бы привлекать внимание читателя к сему собранию застарелых штампов, рецидиву советского идеологического кликушества, свидетельствующему лишь об убогости мысли нынешних «верхов», если бы не некоторые детали... В самом деле, ну хочется главному администратору президента понаставить досок почета посреди народа, где смертность превышает рождаемость, хочется «повышать авторитет человека труда», получающего при ценах даже на пропитание, превышающих мировые, 70 долларов зарплаты и 35 долларов пенсии. Пусть будет этот своего рода памятник долготерпению нашего человека. Что ж, таков его, главного администратора, нравственный уровень. Тем не менее на некоторые идеологические ухищрения стоит обратить внимание.

К примеру, на этот вот призыв: *«Пора, наконец, отойти от расхожего стереотипа, что интеллигенция — это малочисленная рафинированная часть общества, изначально стоящая в оппозиции к власти. Очень важно поднять авторитет прежде всего «рядового интеллигента»: инженера и агронома, преподавателя вуза и сельского учителя, директора библиотеки и клубного работника»*. Итак, понадобились «рядовые интеллигенты», поскольку именно они надежнейшие «проводники политики президента», а не эти «рафинированные»... Слово-то какое ученое выучил г-н Мясникович! Одним словом, нам «рафинированные» не нужны... Нам бы попроще людишек... Зачем нам Василь Быков? Зачем Рыгор Бородулин? Зачем Алесь Адамович? Хорошо, кстати, что последний вовремя помер... А то бы сейчас ого как гремел супротив нас! Зачем нам они? Когда есть хорошие клубные работники, столь любимые властью, поскольку, как с удовольствием отмечает г-н Мясникович, *«обладают душевной скромностью и неистребимым желанием нести людям свет добра и культуры»*. Короче, скромные прежде всего требуются...

Конечно, конечно, примитивному режиму нужна такая «интеллигентная публика», чтобы ни в коем разе не превосходила умственный уровень его столпов. Разве можно в нашей стране быть умнее Лукашенко или Мясниковича? Не положено!

Зараза, тем не менее возомнившая, — что она что-то из себя представляет, она ведь где гнездится и кучкуется? Правильно: в душных городских стенах. Вот и г-н Мясникович констатирует: *«Городская интеллигенция порой консервируется в тесном «академическом» мирке, тогда как только живое общение с народом может влить свежую кровь в ее жилы»*.

Вот это уже по-нашему, попролетарски! Слышите, читатель, этот старинный отзвук ленинско-сталинской вражды к интеллигенции, к этим «высоколобым», к этому, по-ленински выражаясь, «говну»? Нет, г-н Мясникович пока еще обходителен... Но «академический» мирок так и просит замены прилагательного *«тесный»* на *«затхлый»*, а, возможно, вскорости и на — *«враждебный нашему народу»*.

А что такое *«живое общение с народом»*? Это ведь и китайскими «коммунами 7 мая» может обернуться. Теми самыми, куда в эпоху «культурной революции» посылали на трудовое перевоспитание несговорчивых интеллигентов. Все дело во времени. А оно, как известно, меняется...

Ну а кому же уготована роль, так сказать, подлинного героя нашего времени? Задача поставлена г-ном Мясниковичем четко: *«сделать все, чтобы солдат или милиционер стал любимцем нации, как во многих развитых странах»*. Видимо, г-н Мясникович насмотрелся американских полицейских боевиков. Но он както позабыл, что тамошний крутой Уокер колотит уголовников, а не граждан, стоящих у здания суда или в пикете. Поэтому с милиционером, как любимцем нации, придется подождать довольно долго. Во всяком случае, до ухода с политической сцены нынешнего режима. Поскольку он, режим, без дубинки в диалоге с обычными гражданами обходится не умеет.

Тем не менее г-н Мясникович не может не похвалить самого себя. *«Наша пропаганда,* — смело утверждает он, — *не закостенелая догма, а активный, гибкий организм, который имеет наступательный характер, работает на опережение»*. Не знаю, согласится ли хан с этим самовосхвалением верховного визиря. На мой взгляд, пропагандистские кадры именно «закостенели» и несут жуткую чепуху позавчерашнего дня. И если хан действительно «последний внук Сталина», как назвал его недавно один почтенный немецкий журнал, ему самое время переходить к рубке голов. Впрочем, я понимаю нашего хана: он и рад бы дать пинка этим дармоедам, но вот кого на их место поставишь?

# адкладаецца

больш не мог трываць голад. Таму ніякая камуністычная дэмагогія ўжо не дапамагла б уладам, калі б яны не пайшлі на легалізацыю арэнды, што ўжо само сабой склалася ўнутры сельгаскамун. А па-другое, гэтую краіну раздзіраюць унутраныя супярэчнасці, якія сведчаць, што кітайскі варыянт рынкавага сацыялізму сябе цалкам вычарпаў.

У Кітаі, як і ў нас, дзяржава львіную долю сродкаў, узятых з прыватнага сектара, траціць на падтрымку дзяржпрадпрыемстваў. Але чым больш зарабляюць уласнікі, тым больш патрабуюць прадпрыемствы, якімі па-ранейшаму кіруе партыя. Таму ў асобных раёнах Кітая пачынаецца натуральны эканамічны абвал, а дзесяткі, у перспектыве сотні мільёнаў работнікаў становяцца беспрацоўнымі.

Толькі сёлета, як паведамляе афіцыйнае кітайскае агенцтва «Сіньхуа», у Кітаі плануецца звольніць больш як 7,5 мільёна рабочых і служачых — у тым ліку з сельгаспрадпрыемстваў. Незалежныя эксперты называюць яшчэ большыя лічбы, а ступень даверу да кітайскіх дзяржаўных органаў не большая, чым да беларускіх.

У Манчжурыі, дзе камуністы стварылі ў свой час нешта накшталт кітайскай Магніткі, прадпрыемствы не плацяць кожнаму пятаму працаўніку.

А рэальны заробак сярэдняга кітайца дазваляе яму купляць толькі рыс, гародніну і практычна больш нічога. Дарэчы, не варта забываць і пра меню шараговага кітайца, які можа есці ўсё, што ходзіць, поўзае і лётае. Беларусы на гэта не здатныя. Прынамсі, пакуль што. Але ж і кітайцы не могуць харчавацца выключна насякомымі ды гадамі, таму краіна ўсё больш крыміналізуецца. Як піша нямецкі часопіс *Spiegel*, у гарадах Манчжурыі наводзяць парадкі своеасаблівыя «пралетарскія мсціўцы». Стаўшы люмпенамі, былыя «гаспадары Народнага Кітая» проста лупяць прахожых малаткамі па галаве — каб адразу забраць іх няхітрую маёмасць.

Пасля таго, як крымінальнікі сярод белага дня абрабавалі дзве машыны з эскорта самога кіраўніка Кітая, Дзянь Цзэмінь разгарнуў антыкрымінальную кампанію, у выніку якой былі пакараныя смерцю больш за 5 тысячаў чалавек. Але пакаранне ў Кітаі — гэта пачатак новага злачынства. Як высветлілася (і пра гэта пісала СВАБОДА), унутраныя органы пакараных прадаюцца для трансплантацыі на Захад. З гэтых «мёртвых» грошай кожны — карныя органы, кітайскія медыкі, мытнікі і мафія — бярэць сваю долю.

Можа, Кітай усё ж не лепшы прыклад?

### Там сапраўдныя паны

У якасці адмоўнага прыкладу Лукашэнка спасылаецца на Польшчу, дзе прыватная ўласнасць на зямлю ў свой час прывяла да адстання «от работавших на государственно-кооперативной основе Чехословакии, Венгрии, ГДР». Гэтая заява нагадвае старыя сацыялістычны аргумент: нельга лічыць краіну сапраўды сацыялістычнай, калі там не калектывізаваная (чытай — нераскулачаная) вёска. Польскім сялянам пашанцавала — не было ў іх ні Сталіна, ні Лукашэнкі.

Сёння, калі з акна вагона бачыш вельмі акуратныя, але вузкія палоскі надзелаў польскіх сялянаў, разумееш, што тэхніка кшталту трактара «Кіравец» іх абрабляць не змажа. Але ж і зямлю нішчыць, як гэта робіць такі трактар-монстр, немагчыма. А што такое сённяшняя Польшча ў адрозненне ад калгаснай Беларусі — можна заўважыць па тым мностве польскіх-сельгаспрадуктаў, якія паступаюць адтуль і праз афіцыйных імпарцёраў, і чаўночным бізнесам. А нам застаецца толькі здзіўляцца, адкуль бяруцца такія пыгожыя і смачныя яблыкі, такія ладныя і духмяныя салы, калі ў Польшчы няма адказнай за гэта вертыкалі.

### Ідэалагічны кампост

Дык вось чаму мы не пойдзем за Польшчай. Усё астатняе, што казаў прэзідэнт наконт прыватнай уласнасці на зямлю, аб рэферэндуме, які «адназначна» (на самой справе вельмі неадназначна) адказаў на гэтае пытанне, — можна лічыць чыстай палітыкай, даволі неахайна схаванай за тэарэтычнымі разважаннямі, якія растуць з курса навуковага камунізму з яго канчатковым збліжэннем горада і вёскі.

У якасці аргумента прыводзіліся сентэнцыі накшталт супадзення калектывізму, псіхалогіі «беларускай вясковай талакі», каштоўнасцяў хрысціянства з ідэямі працавітасці і сацыяльнай справядлівасці сямідзесяці савецкіх гадоў. Натуральна, каб зрабіць гэткі ідэалагічны кампост, трэба мець смеласць. І поўную адсутнасць грэблівасці — каб мераць адной меркай і святых, і грэшнікаў.

А ў цэлым прамова, якая некалькі часоў запар гучала і паказвалася на ўсю краіну, мела своеасаблівую драматургію. Іншы раз гэта нагадвала сеанс заклінання змей, але часам аратар дэманстраваў рыторыку, як на мітынгу. Напрыклад, заклікаў са сваімі харчамі спяшацца на чужыя рынкі, бо абгоняць, гады!

Не турбуйцеся, таварышы! Нас ужо абагналі. З усіх усходнееўрапейскіх краінаў, якія на самой справе інтэгрыруюцца ў Еўропу, найменшую долю экспарту ў ЕЭС у агульным аб'ёме экспарту мае Літва — 37%, Эстонія — ужо 55%, а Польшча — нават 70%! Але ўсе гэта таму, што яны праводзяць ясную еўрапейскую палітыку. А нас пры такой нашай палітыцы туды не пусцяць, як бы мы ні пяліся.

І апошняе. Рэальнае сацыяльна-эканамічнае становішча краіны ні ў 1990 годзе, куды нас абяцаюць вярнуць напачатку III тысячагоддзя, ні цяпер нікто нармальны не ацэньвае па кольнасці сабранай сялянамі бульбы.

І ўвогуле, каўбаса — гэта не праблема. Праблемай яна стала менавіта пры савецкім часе, аб якім мараць нашыя праўядыры.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

ПАЗІЦЫЯ

# Вяртанне БНР

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
*старшыня БНФ «Адраджэнне»*

## Выхад з дыктатуры

Мы павінны ўсведамляць не толькі задачы, што стаяць перад беларускім грамадствам, але і шляхі іх дасягнення. Шлях мусіць быць такі, які гарантуе незалежнасць Беларусі, дэмакратычны лад, захаванне беларускай мовы і спыніць экспансію расійскай імперскай палітыкі.

Наша змаганне за свабоду і свае правы стане грунтоўным і зразумелым у свеце, калі будзе пацверджана не толькі правам, але і законнасцю нашых дамаганняў і апорай на легітымную ўладу. Адзінай формай легітымнай беларускай улады сёння з'яўляецца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Трэба ўлічваць, што калі б планы Масквы зноў у які ўжо раз ажыццявіліся б і Расія захапіла б Беларусь, — тады прадстаўляць правы беларусаў у свеце на ўзроўні ўлады не будзе каму, акрамя Рады БНР. (Не Вярхоўнаму ж Савету нумар 13.) Рада БНР і людзі, што яе захавалі, заслугоўваюць вялікай пашаны.

Калі рэжым пратрымаецца да сярэдзіны 1999 года, то можна не сумнявацца, што Лукашэнка захоча прэзідэнцтваваць і далей. Але тады ён ужо будзе нелегітымнай асобай, якая двойчы ўзурпавала ўладу, самазванцам. Ніхто ў свеце не будзе яго лічыць за прэзідэнта.

Не выключана, аднак, што Лукашэнка пажадае правесці ў 1999 годзе прэзідэнцкія выбары па сваёй канстытуцыі і сваіх дэкрэтах. Тады Масква і спецслужбы будуць гуляць самі з сабой. У «апазіцыі» яны ўжо падрыхтаваліся, нават дэмакратычныя «лэйблы» развесілі.

Але гэты варыянт недасканалы. Для Масквы лепш той варыянт, які нецярпліва падказвае Лукашэнку яго былы дарадца, незаслужана пакрыўджаны А.Лябедзька. Менавіта: правесці выбары прэзідэнта па Канстытуцыі 94-га года (ды яшчэ і з чарговым рэферэндумам на тэму «інтэграцыі»). Калі Масква на рызыку рашыцца, то стане зразумела, што яна ідзе ўжо выпрабаваным у 94-м г. шляхам, на змену фаварыту (як у 94-м годзе: Кебіч — Лукашэнка). Тады можна здагадвацца, чаму да гэтага варыянту рыхтуецца дзеячы АГП.

Да 20 лютага 1999 года (за пяць месяцаў да сканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі) павінны быць прызначаныя новыя выбары. Прызначае выбары Вярхоўны Савет, якога няма. Выбары па Канстытуцыі 1994 года прызначаць няма каму. Тое ж самае адносіцца і да выбараў у парламент.

Аднак механізм, які можа забяспечыць беларускую законнасць, не знішчаны. Выбары ў парламент можа абвясціць Рада БНР, прызнаўшы спецыяльным актам Канстытуцыю 1994 года і выбарчае заканадаўства на яе аснове. Пра прэзідэнцтва я не кажу. Бо пазіцыя БНФ ужо выказаная: інстытут прэзідэнцтва ў Беларусі павінен быць ліквідаваны. Прэзідэнцтва тут — гэта шлях да дыктатуры.

Для рэальнага ажыццяўлення выбараў у беларускі парламент на Бацькаўшчыне і для арганізацыі гэтай працы ў Раду БНР могуць быць у **адпаведны момант** (падкрэсліваю, што ў адпаведны момант) выбраныя (дэлегаваныя) дэпутаты ад Беларускага Народнага Фронту і іншых беларускіх палітычных арганізацыяў. Гэтым самым законная Рада БНР у выгнанні пачне рэальна дзейнічаць не толькі ў Амерыцы ды Еўропе, але і ў Беларусі (з усімі паўнамоцтвамі). Падрабязнасці гэтага варыянту я не апісваю, але яны дастаткова прадуманыя.

*Зянон Пазьняк лічыць, што Рада БНР можа абвясціць выбары ў Беларусі — пры пэўных умовах і ў адпаведны момант*

Другі варыянт больш эфектыўны, грунтоўны, але і больш працаёмкі, патрабуе надзвычайнай актыўнасці ўсёй нацыі. Рада БНР мае права прыняць Канстытуцыю БНР, стварыць заканадаўства БНР аб выбарах і правесці гэтыя выбары ў Беларусі па сваіх законах. Але дзеля стварэння безумоўнай прававой гарантыі пад такія выбары неабходна, каб грамадзяне Рэспублікі Беларусь набылі грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі, якім валодалі іхнія прадзеды.

Прапановы аб прыняцці кіхарамі Беларусі грамадзянства БНР гучалі ў мінулым годзе на з'ездзе Еўрапейскай секцыі Рады БНР у Вільні і станоўча былі ўспрынятыя на 22-й сесіі Рады БНР у Нью-Брансвіку, разглядаліся ў Празе і ў Нью-Йорку. Механізм прыняцця грамадзянства БНР якраз абмяркоўваецца.

Зрэшты, акт далучэння да грамадзянства БНР будзе не настолькі фактарам юрыдычнага значэння, колькі маральна-палітычнага — але з канкрэтным і практычным выяўленнем адносінаў да лукашэнкаўскай дыктатуры і да ідэалу БНР. Далучэнне да грамадзянства БНР абавязкова павінна замацоўвацца прысягай на вернасць ідэалам БНР, тэкст якой, скажам, можа быць змешчаны ў заяве на далучэнне да грамадзянства.

Далучэнне да грамадзянства БНР не можа лічыцца з'явай падвойнага грамадзянства. Бо гэта адна і тая ж краіна, адна і тая ж тэрыторыя, адзін і той жа народ. Праз набыццё грамадзянства БНР адбываецца далучэнне людзей да легітымнай улады Беларускай Народнай Рэспублікі, уключэнне яе ключаны з Канстытуцыі (як устаўлены, да таго ж, з грубымі працэсуальнымі парушэннямі), а сама Канстытуцыя-94 з дапаўненнямі і ўдакладненнямі магла б быць аднаўлена і прынятая як Канстытуцыя Беларускай Народнай Рэспублікі.

Вынікі антызаконных рэферэндумаў 1995 і 1996 гг. не будуць прызнаныя, справа аб іх будзе перададзеная ў Канстытуцыйны суд. Адразу будуць вернутыя герб «Пагоня» і дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. Будуць вернутыя беларускія школы і дзяржаўнасць беларускай мовы, адменены ўсе незаконныя акты, міжнародныя дамовы, дагаворы, пакты і пагадненні перыяду дыктатуры.

Распачнуцца тэрміновыя заходы па аднаўленні эканомікі, сельскай гаспадаркі (на падставе прыватнай уласнасці на зямлю), развіцці гандлю і прадпрымальніцтва, стварэнні ўмоваў для заходніх інвестыцыяў. Будуць упарадкаваныя падаткі.

Спыніцца наплыў бандытызму і крымінальшчыны з Расіі. Адновяцца беларускія кантакты і дачыненні з міжнароднымі арганізацыямі, у тым ліку і прысутнасць у структурах Еўрапейскага саюза і ўзаемадзеянне з НАТО. Беларусь будзе арыентавацца сама на сябе і абапірацца на Захад. Адновяцца перапыненыя сувязі беларускага бізнесу з заходнім светам, гандаль з якім, нягледзячы на перашкоды, складаў у 1994 годзе 50 працэнтаў ад усяго замежнага гандлёвага абароту краіны. Гэты накірунак будзе прыярытэтным. Пры ўмове атрымання ільготных заходніх крэдытаў і інвестыцыяў (на што ёсць пэўныя гарантыі) Беларусь зможа скарыстацца хуткім шляхам пад'ёму і развіцця эканомікі. Будуць уключаныя ўсе сістэмы ўзаемаабмену і супрацоўніцтва з Захадам на ўсіх узроўнях і накірунках.

Заходні вектар узаемадзеяння для Беларусі надзейны і перспектыўны, бо мае пад сабой грунт развітай эканомікі, тэхналогіяў і стабільных дачыненняў, высокага ўзроўню культуры і вольнага капіталу. Тут, як я ўжо адзначыў, адсутнічае палітычная небяспека для суверэнітэту Беларусі і крымінальная небяспека для грамадства.

Нічога падобнага Беларусь не бачыць на Усходзе. Рынак, як вядома, там, дзе плацяць. Расія не плацежаздольная, а пагроза незалежнасці Беларусі ад крамлёўскай палітыкі і грамадству ад рускай крымінальшчыны дасягае ўзроўню нацыянальнага спустошання.

Асноўную норму газу Беларусь будзе мець за кошт яго транзіту праз нашу тэрыторыю згодна міжнародных узроўняў аплаты. (Ёсць таксама іншыя дапаможныя і самастойныя варыянты.) Пастаўка нафты не з'яўляецца (і не з'яўлялася) праблемай. Купіць нафту можна па ўсім свеце. Беларусь не будзе згортваць эканамічныя дачыненні з Расіяй, але яны будуць пастаўлены на міжнародную прававую і дагаворную аснову і грунтавацца на выгадзе, а не на палітыцы. Будуць пастаўленыя пытанні аб выплаце Беларусі Расіяй за Чарнобыль (каля 30 мільярдаў долараў), за ўтрыманне расійскага войска (якое будзе поўнасцю вывезенае з Беларусі), аб кампенсацыі за маёмасць за мяжой і г.д.

Пасля спынення інфляцыі і ў пачатку стабілізацыі эканомікі будуць уведзеныя стабільныя беларускія талеры (замест часовых рублёў, якія ўжываюцца цяпер).

Беларусь усімі сіламі будзе імкнуцца ўступіць у НАТО і адразу паставіць гэтае пытанне на парадак дня.

## Дом

Нашае нацыянальнае жыццё — гэта беларуская дзяржава. Мы адбудоўваем наш разбураны дом. Мы будзем у ім жыць і збудуем яго навечна, каб жылі ў ім нашы дзеці і ўнукі, будучыя беларусы. Наша дзяржава павінна быць незалежнай, моцнай і заможнай. Дзеля гэтага найперш мы павінны шанаваць у ёй нашу беларускую мову, берагчы рэлігію, традыцыі, гісторыю і культуру. Мы павінны стварыць у ёй дэмакратычны лад, гэта значыць такі спосаб дзяржаўнага ладу, які мае выбарную ўладу, падзел заканадаўчай і выканаўчай уладаў, незалежны суд, свабодны друк, мясцовае самакіраванне і гарантыі правоў асобы.

Няма нічога немагчымага перад свядомай народнай воляй. Гэта даказалі нават маленькія эстонцы і чэчэнцы, калі кожны па-свойму перамаглі Расію. Гэта даказалі і мы, беларусы, у пачатку 90-х гг., калі за кароткі час, вельмі малымі сіламі тыя, хто горача верылі ў Бацькаўшчыну і перамогу, вярнулі наш сцяг, нашу Пагоню, нашу мову і школы, нашу незалежнасць. Мы вернем усё гэта ізноў — супольна, разам і назаўсёды.

*(Заканчэнне. Пачатак у № 23, 24)*

*Нарушение прав человека в Беларуси вызывает критическую реакцию американских законодателей*

# Слушания в Конгрессе США

6 марта 1998 года Палата Представителей Конгресса США рассмотрела резолюцию 237, которая выражет озабоченность проблемой соблюдения прав человека в Беларуси. Резолюция призывает правительство Беларуси выполнять международные обязательства, следовать принципам, изложенным в собственной Конституции, поощрять сотрудничество с миссией ОБСЕ в Минске, призывает президента Клинтона рассмотреть вопрос о соблюдении прав человека при продлении действия статуса наибольшего благоприятствования в торговле для Беларуси.

Представляя резолюцию, конгрессмен Кристофер Смит (сопредседатель Республиканской партии) сказал: «В этом веке народ Беларуси испытал ужасы как нацистского, так и советского тоталитаризма. Сегодня права и свободы граждан нарушаются самими властями Беларуси. Как государство — член ОБСЕ Беларусь, взяла на себя обязательства выполнять положения окончательного Хельсинкского Акта и последующие соглашения ОБСЕ. Несмотря на это, после избрания в 1994 г. президентом Александра Лукашенко основные права и свободы человека стали постоянно нарушаться, что является явным нарушением добровольно взятых Беларусью под эгидой ОБСЕ обязательств.

В стремлении расширить свои полномочия Лукашенко проигнорировал конституционно установленный принцип разделения властей. Практически вся власть сконцентрирована в руках Лукашенко, который управляет страной при помощи декретов. После референдума 1996 года Лукашенко распустил Верховный Совет (парламент) и создал новый законодательный орган, который в значительной степени ему подчиняется. Резолюция, которую я сегодня предлагаю, призывает президента Лукашенко восстановить права Верховного Совета, который был избран на законной основе в результате демократических выборов в 1995 году и является единственным легитимным законодательным органом в Беларуси. Аналогично президент Лукашенко нарушил полномочия судебной власти. Первоначально избранный независимый Конституционный суд находится под полным контролем президента. Независимость судебной власти гарантировать больше нельзя.

Свобода слова, собрания и ассоциации серьезно ограничены. Государство контролирует практически все средства массовой информации. Несколько действительно независимых газет и радиостанций подверглось репрессиям или было закрыто. Журналисты, критически относящиеся к режиму, были лишены аккредитации, некоторые были арестованы и заключены в тюрьму. Лидеры оппозиции и другие граждане, которые критикуют президента или правительство, подвергаются запугиванию, избиваются или задерживаются. Результатом демонстраций нескольких последних лет явилось кратковременное задержание и наложение штрафов, а также случаи жестокого отношения полиции к демонстрантам и даже к прохожим.

После года трудных переговоров и нескольких неудачных попыток Беларусь и ОБСЕ согласились на открытие миссии ОБСЕ в Минске, которая призвана оказывать содействие развитию демократических институтов и выполнению обязательств перед ОБСЕ. Данная миссия сейчас начинает работу в столице Беларуси Минске и может сыграть действительно конструктивную роль в улучшении ситуации с правами человека в Беларуси. Позвольте мне заверить вас, что я буду внимательно следить за желанием белорусского правительства сотрудничать с миссией ОБСЕ», — завершил свое выступление Смит.

Ниже следует текст резолюции.

# Вашингтон:

Выражая озабоченность серьезными ограничениями прав человека и гражданских свобод в Беларуси, включая невыполнение обязательств перед ОБСЕ, призывая президента (Клинтона — **Ред.**) принять во внимание данные факты при определении статуса наибольшего благоприятствования в торговле для Беларуси, принимая во внимание,

— что Беларусь, страна с населением 10 млн., является членом Организации за безопасность и сотрудничество в Европе;

— что положение с правами человека постоянно ухудшается с момента прихода к власти президента Лукашенко в 1994 г., который повернул в обратном направлении процесс демократизации и гарантий прав человека в постсоветский период;

— что президент Лукашенко постоянно расширял полномочия исполнительной власти и нарушил принцип противовесов своей власти со стороны законодательной и судебной властей;

— что референдум 1996 года, который использовал президент для наделения себя огромными полномочиями над парламентом и судебной властью, был проведен с нарушениями Конституции 1994 года и не может считаться легитимным;

— что белорусский Верховный Совет, избранный в 1995 году по демократической Конституции 1994 года, остается единственным легитимным парламентом Беларуси;

— что после проведения в ноябре 1996 года референдума президент Лукашенко распустил Верховный Совет, сформировал палату представителей, которая ему подчиняется, и использовал ее для ратификации собственных указов;

— что Парламентская Ассамблея ОБСЕ признает Верховный Совет как легитимный парламент Беларуси;

— что принцип разделения властей, установленный в Конституции 1994 года и соответствующий принципам развитых

